Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 25 Пятніца, 18-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Грузінскае паўстаньне.

Паўстаньне ў Грузіі адбываецца пад знакам поўнай дзяржаўнай незалежнасьці.

Калі разваліласа быўшая Расейская Імпэрыя і пачалося самаазначэньне яе паднявольных народаў, дык грузінская дэмакратыя была хіба найменш сэпаратыстычнаю.

У той час, як Беларусь, а ў першую чаргу Украіна ды невялічная Бэсарабія, падчас панаваньня поўнага бязладу Керэнскага, пачалі выразна сэпаравацца ад Велікаросіі, пачалі тварыць завязі сваіх нацыянальна-дзяржаўных органаў, у Грузіі, даўшай расейскай рэвалюцыі, вядомыя ўсёй быўшай імпэрыі, імёны Чхэідзэ, Чхэнкэлі, Цэрэтэлі, ня чуваць было аб якіх-нібудзь імкненьнях да самастойнасьці. Калі імкненьні гэтыя й былі, дык хіба толькі ў адзінках, а масы грузінскія, ў кожным выпадку, раўняліся па вышэйназваных асобах, верных усерасейскаму цэнтралізму.

Толькі бальшавіцкі пераварот у Петраградзе выклікаў і на Каўказе пасьпешную самаарганізацыю нацыянальнасьцяў.

Спачатку злажылася Закаўкаская рэспубліка, пасьля толькі з яе вылучылася і выкрышталізавалася незалежная, саўсім дэмакратычная, Грузінская Рэспубліка, ў якой улада была ў руках соцыяль-дэмакратаў меншавікоў.

Урадовая партыя ў Грузіі налічвала каля 80 тысячаў сяброў, меншавікі ўвайшлі ў зносіны з Эўропай і шмат якімі заходня-эўропэйскімі дзяржавамі Грузінская Дэмакратычная Рэспубліка была ўжо прызнана.

Устаноўчы Сойм на чале з тым самым Чхэідзэ, які кіраваў усімі „совдэпамі“ быўшае Расеі падчас керэншчыны, пачаў будаўніцтва ўласнае, незалежнае Грузінскае Дзяржавы, кіруючыся воляй свайго народу.

Грузія ўвайшла ў зносіны з маскоўскім бальшавіцкім урадам і падпісала дагавор з ім, як самастойная дзяржава, з гарантыяй няўмешваньня ўва ўнутраныя справы абедзьвюх дагаварыўшыхся старонаў.

Здавалася-б, што ніякага дзела бальшавіком з іхняю чырвонаю арміяй да Грузіі няма.

Аднак маскоўскі імпэрыялізм, хаця й прыбраўшы чырвоную афарбоўку, нядоўга мірыўся з сувэрэнітам Грузіі і, ня гледзячы на падпісаныя ўмовы, налажыў маскоўскі бальшавізм сваю цяжкую лапу на кволы, малады, хоць і дэмакратычны, грузінскі дзяржаўны арганізм.

Значыцца, дагавор з незалежнаю Грузіяй для маскоўскіх чырвоных імпэрыялістаў быў толькі „передышкой“ толькі спрытным тактычным ходам, якіх у практыцы бальшавікоў было нямала.

Захапляючы ў Петраградзе ўладу, бальшавікі трубілі на ўвесь фронт разбэшчанае, згніўшае расейскае арміі аб тым, што яны выступаюць і за хлеб, і за мір, за зямлю, за волю і навет за . . . Устаноўчае Сабраньне.

А напраўду бальшавіцкі Петраград з першых-жа дзён свае ўлады ўступае ў вайну з Украінай, на чале якой стаяла „Цэнтральна Рада“, з Бэсарабіяй, дзе стварыўся перадпарлямэнт „Сфатуль-Цэрый“, у сьнежні 1917 году франтавыя армейскія бальшавікі штыхамі разганяюць у Менску Першы Усебеларускі Конгрэс, яшчэ крыху і ўвязваюцца яны ў войны з незалежнымі прыбалтыцкімі рэспублікамі, а затым і з Польшчаю.

І усё гэта пасьля таго, як, бяручы ўладу, бальшавікі выкінулі лёзунг поўнага самаазначэньня народаў быўшае Расеі „вплоть“ да аддзяленьня!

Гэткім быў мір, дакляраваны бальшавікамі. Замест міру—вайна з дэмакратыямі паднявольных народаў быўшае Расеі ды хатняя вайна з рознымі белагвардзейскімі, чорнасоценнымі і дэмакратычнымі арміямі самых маскалёў, розных Карнілавых, Колчакаў, Чэрновых, Чайкоўскіх, Дэнікіных і г. д.

Замест дакляраванага хлеба, бальшавікі ў сыстэму ўзьвялі самы жудасны голад, морачы ім, паміраўшыя ад поўнай гаспадарчай разрухі, месты.

Дакляраваная зямля, праўда, пераходзіла ў рукі сялянства шляхам стыхійнага анархічнага захвату, пачатага яшчэ пры Керэнскім. Але што за карысьць з зямлі, калі ана аказалася вялізнаю, спакойна ляжаўшаю, ялавінаю.

Аб волі няма чаго й казаць, бо яна зрабілася манаполем аднае толькі запанаваўшае бальшавіцкае партыі.

Адмененая, пры захапляньні ўлады ад Керэнскага, кара сьмерці была ўведзена бальшавікамі бесцэрамонна цераз утварэньне ўсясільных надзвычайных камісіяў, зложаных блізу што цалком з праступных элемэнтаў, якія на нялюдзкім тэроры над шырока сталкованай буржуазіяй рабілі свой уласны асабісты інтэрас, напяўшы на лоб пяцірогую чырвоную зорку.

Ад гэткай сыстэмы здрады сваіх уласных лёзунгаў, як ад чумы, пачалі адгароджвацца, вызваленыя з расейскага вастрогу, народы.

Адгарадзілася на нейкі час і Грузія, так доўга сэпаравацца ад б. Расеі ня думаўшая.

І вось „ня кіем, дык палкаю“ бальшавікі, загарантаваўшы сваімі подпісамі 7-га траўня 1920 году самастойнасьць дэмакратычнай Грузіі, пачалі затым старацца зьвясьці яе са сьвету, проста ўлучыць у даўнейшы, пасвойму перакроены, дзяржаўны арганізм.

Самаю голаю інтэрвэнцыяй ўва ўнутраныя грузінскія справы бальшавікі зьліквідавалі дэмакратычную Грузію і, окупаваўшы яе пермскімі, разанскімі ці тульскімі „грузінамі“, утварылі Грузію „советскую“.

Дзікі, аднак-жа, гвалт ня мог цярпецца да канца адважным, здаровым грузінскім народам.

Раз пачуўшы сваю нацыянальную волю й дзяржаўную самастойнасьць, ён ня хоча нічые апекі, і ён падняўся за сваё найсьвяцейшае права жыць у сваёй хаце так, як сам ён хоча, а ня так, як яму загадвае маскоўскі Крэмль.

Гэткі магутны рух грузінаў да волі напэўна выкліча спачуцьцё ўва ўсіх цывілізованых дэмакратыях сьвету і вельмі магчыма, што ў хуткім часе адбудзецца гарантыя грузінскае незалежнасьці, не бальшавіцкая, не крамлёўская, а такая, якая й павінна быць раз назаўсёды устаноўлена.

Грузія першая ізолюецца ад імпэрыялістычнага маскоўскага цэнтру.

Прыклад даны ёю не змарнуецца. За Грузіяй і ўсе іншыя народы быўшае Расейскае Імпэрыі пачнуць зьдзіраць з сябе чырвона-крывавыя савецкія ярлыкі.

Грузінскае паўстаньне — гэта магутны сыгнал для ўсіх ня рабскіх нацыянальнасьцяў, што дасюль ня вылезьлі яшчэ з „вастрогу народаў“ не павыбіралі таго, што іхняе, са „складу накрадзеных рэчаў“, на якім цяпер віднеецца замест даўнейшага шыльду—*Россія*—навюткі шыльд—С. С. С. Р., ды замест царскага двухгаловага арла - пяцьрогая чырвоная зара.

---

## Палітычны агляд.

Цэнтрам сусьветных падзей зьяўляецца проці-бальшавіцкае паўстаньне на Каўказе. Згодна з апошнімі весткамі паўстаньне агарнула ўвесь Каўказ. Шмат дзе прарвалі чугуначны рух бальшавікоў і гэтым перашкодзілі перакіданьню савецкіх войск. Захвачаны склады аружжа і амуніцыі. Паўстаньне захваціла ўсю Грузію, Армэнію і Азэрбэйджан. Грузіны занялі палітычны цэнтр палудзеннага Каўказу Тыфліс і атакуюць крэпасьць на беразе Чорнага мора, Батум. Каўказскія падзеі зьвярнулі на сябе ўвагу Лігі Народаў і ўрадовых колаў Парыжу і Лёндану, якія думаюць выступіць, як пасрэднікі між савецкім урадам ды паўстаўшымі. Але нельга спадзявацца ўдачы гэтага выступленьня. Бязумоўна, што сусьветныя дзяржавы выступяць абаронцамі паўстаўшых і будуць вымагаць прызнаньня незалежнасьці закаўкаскіх дзяржаваў, на што бальшавікі, ведама, ніколі ня згодзяцца. За граніцай гэтаму паўстаньню даюць нацыянальны характар, а бальшавікі лічаць яго клясавым унутра-

вялікія беспарадкі ня толькі ў Мілане і Рыме, але і ў іншых месцах. Разгромлены рэдакцыі „Corriere della Sera" ў Мілане, соцыялістычная газэта „Justicia" і цэлы рад памешканьняў прафэсыянальных рабочых саюзаў.

Паводлуг апошніх вестак з **Шанхаю**, ў **Пэкіне** абвешчана асаднае палажэньне і выданы прыказ аб мобілізацыі ўрадовых войскаў, дзеля таго, што сільныя манджурскія аддзелы пасьпешна йдуць на сталіцу.

Паміж **кітайскім** і **маскоўскім** урадамі зроблены дагавор аб узаемным выступленьні ў выпадку інтэрвэнцыі эўропэйскіх дзяржаваў у кітайскія справы.

Аг. Рэйтэра перадае з Каіру, з эгіпэцкіх крыніц, што палажэньне на захадняй граніцы **Эгіпту** крытычнае, дзеля таго, што **Італія** рыхтуецца заняць тыя тэрыторыі, якія лічыць належачымі да Трыполітаніі.

„N. Fr. Pr." перадае аб магчымасьці адпаўненьня зносін паміж **Вэнгрыяй** і **С. С. Р. Р.** Чакаецца прызнаньне саветаў de jure.

Паўстаньне на **Каўказе** занепакоіла **Турцыю**. Кэмаль-паша прыехаў у Трапэзунд. Тыфліс заняты паўстанцамі 5-га верасьня, бальшавікі паведамляюць, што ён адабраны назад. Усе гарады, апрача Батуму, ў руках паўстанцаў.

Паведамленьні з **Софіі** пацьвярджаюць вестку аб забойстве ў мястэчку Горная Дзюмая двох выдатных македонскіх рэвалюцыянэраў Аляксея Васільева і Рыгора Араматава. 15-га верасьня забіты на вуліцы ў Софіі македонец Кавачоў і камуністычны пасол Гадзімаў. Усе забойцы арыштованы.

---

# Агляд прэсы.

„Kurjer Poranny" піша аб камуністычнай рабоце ў Польшчы:

> Пасьля часовага спыненьня камуністаў пасьля арыштаў і рэпрэсыяў ізноў можна заўважыць ажыўленьне дзеяльнасьці акружных камуністычных камітэтаў. Цяпер даюць аб сабе знаць арганізацыі на ўсходніх Крэсах. Гэта доказвае, што аслабявае дзеяльнасьць цэнтральных камуністычных сіл у Польшчы і круг дзеяльнасьці пераносіцца на тэрыторыі, на якіх жыве. разнародны нацыянальны элемэнт.

Далей аўтор кажа аб камуністычнай рабоце у Берасьці, Беластоку, Тарнопалі. У Беластоку былі раскіданы адозвы на жыдоўскай і беларускай мове. Аднак агульны вывад аўтора радасны:

> Пасьля апошніх загадаў улады на Крэсах, а асабліва ў ваяводзтвах, у якіх жывуць беларусы, спэцыяльна баламучаныя праз розных эмісарыяў і арганізатараў дывэрсыі ды саботажу, гэтыя тэрыторыі супакоіліся. Узмацаваная чыннасьць пагранічнай стражы перашкодзіла ў апошнім тыдні колькі спробам дывэрсыйных савецкіх бандаў перайсьці граніцу.
>
> Аднак штаб чырвонай арміі і адрацзіўшаяся чразвычайка Г. П. У. ня спыніліся. Вось перакінулі ў апошнія дні ўсю сваю ўвагу і сваіх эмісарыяў на тэрыторыі ваяводзтваў, дагэтуль спакойных, а насялёных украінцамі ў Малапольшчы ўсходняй. Вось у шмат якіх паветах Львоўскага, Станіславоўскага і Тарнапальскага ваяводзтваў пачалі паяўляцца відочныя сьляды арганізованай саботажнай акцыі. Пакуль што гэтыя ячэйкі абмяжоўваюцца сельска-гаспадарчым саботажам, выкарыстоўваючы васеннюю пару і поўныя гумны запасаў збожжа. Вось бяз дай прычыны у няведамы спосаб і праз невыясненых асоб успыхваюць пажары, якія зьніштажаюць засьценкі, фальваркі і гаспадарскія пуні, ведама заўсёды поўныя жыўнасьці.

Пасьля даецца рад прыкладаў гэтага новага саботажу, а ў канцы надзея, што:

> калі ўладзе ўдалося спыніць саботажныя і дывэрсыйныя разгоны ў паўночных ваяводзтвах над савецкай граніцай, дык, думаем, што гэтак будзе і ў раёнах палудзенных.

Справа Савінкова мусіць доўга яшчэ ня сойдзе са старонак газэт. Маскоўскі карэспандэнт „Berliner Tageblatt" у сваёй газэце апісвае, як яго і двох іншых журналістаў — ангельца і амэрыканца — „запрасілі" на працэс Савінкова.

> Журналістаў дасталі з камісарыяту заграгічных справаў на апошняе паседжаньне, яны зусім ня ведалі, куды іх вядуць. Памешканьне старанна пільнавалася, а на гары ў салі сядзелі важныя асобы камунізму. У ўсіх твары лунали.
>
> Ніводная пануючая кляса не магла гэтак добра, як тая, ведаць, чым была-бы проці яе рэвалюцыя і што Савінкоў для гэтае рэвалюцыі значыў. Яны мелі яго ў руках. Гэта давала спэцыяльны характар гэтаму начному паседжаньню... Настраеньнем гэтага вечару быў трыумф, нешта накшталт вызваленьня. Ня лёгка ўдумацца ўва ўсё гэта, але гэтае ўражаньне было яснае для кожнага з прысутных...

---

# Жыцьцё провінцыі.

**Места Радашкавічы** *(Вялейск. пав)*.

Што-ж можна сказаць аб нашым так званым заштатным месьце Радашкавічах? Жывём на самым пагранічным узьмежку і жывём, дзякаваць Богу, ня кепска. Ураджай сёлета каля нас сярэдні, аўсы добрыя, бульба трошкі пашкоджана. Сена сабралі зялёнае, наагул лета, як кажуць, благое было. Таргі па чацьвяргох зьбіраюцца-нішто. Прадукты танныя, бо збыту ў іншае места няма. Бывала ўсё гэта зьядаў Менск. Крамнікі кішэні набіваюць добра, бо служачых,—розных пагранічных установаў,—многа, якія, вядома, пакідаюць у Радашкавічах сваю пэнсію.

Паглядзеўшы на Радашкавічы можна заўважыць, што выглядаюць багацей,як пры цару. Сялянам жывецца добра, абы толькі ня было вайны ці якой завірухі, чаго толькі селянін і баіцца, а так ўсё добра. Адно толькі, што патрэбны на вёсках беларускія школы. У нашай валасьці, вось дзе: у в. Верамейках, Путніках, Загорцах, Пятолях і Максімаўцы, а то дзеці растуць, на лес гледзячы.

У месьце Радашкавічах школ хапае, ёсьць і Беларуская Гімназія і пачатковыя польскія школы, а з вёскай-то дрэнна. Жыцьцё-ж наагул наладзілася, ўсё добра і спакойна

Газэту „Грамадзкі Голас" адтрымліваем, за што дзякуем шчыра і просім высылаць далей.

**Стары Беларус.**

---

**Вёска Тэклінопаль,** *Вялейскага пав.*

„Загляне сонца і ў наша ваконца" кажуць беларускія пісьменьнікі, але да нашае вёсачкі нешта ніяк не заглядае, хоць, праўда, мы нікога і не вінавацім у гэтым, бо наша вёска далёка ад чугункі і газэты да нас вельмі трудна даходзяць, але усё-ж могуць хоць спозьненыя, але дайсьці; хоць, праўду сказаць, што газэта „Сын Беларуса" рэгулярна ў нас адтрымліваецца, чаму-ж ня можа такжа рэгулярна адтрымлівацца і газэта „Грамадзкі Голас", якая ў нашай староньцы вельмі пажаданая. „Сын Беларуса" запоўнены „інтэрпэляцыямі", так ужо нам абрыд, што і сапраўды ня хочацца браць яго ў рукі, бо ня раз варочаючы газэты ведаеш, што перш-на-перш напорашся на вядомую інтэрпэляцыю якога — нібудзь пасла. І сапраўды, ці-ж няма чаго - кольвек лепшага, апрача адных інтэрпэляцыяў, напісаць у сваёй газэце?

Знайшоўшы вялізарную розьніцу паміж газэтай „Сын Беларуса" і „Грамадзкі Голас", з якіх апошняя піша аб усём, што робіцца на сьвеце і якая сьмела гаворыць і аб усім добрым і дрэнным, абстойвае галоўныя інтарэсы беларусаў, просім пана Рэдактара высылаць у нашу вёсачку сваю паважаную газэту „Грамадзкі Голас", а мы-ж, хоць нам і трудна, але-ж усё такі пастараемся сабраць крыху грошай і хоць гэтым падзякаваць за газэту.

Найбліжэйшая ад нас пошта—гэта Вялейка.

**Янка Касмач.**

---

**Слонім.**

9 і 10 верасьня суд „доразьны" разглядаў справу 19 асоб, абвінавачаных, што хацелі ўцячы з вастрогу і забіць вастрожнага стражніка.

Суд, разгледзіўшы абставіны дзела і праслухаўшы прамовы адвакатаў, пастанавіў аддаць справу на разгляд звычайнага суда.

---

як мае быць, дзеўчынай, а я, ось, прынёс вам, як заўсёды, стужак, цукерак і казкі, а вось бачу, што трэба ўжо ня казкі, а больш паважныя кніжкі, — адказаваў я ёй.

— Гэта нічога, давайце стужкі, цукеркі і казкі, я ўсё гэта люблю вельмі, — засьмяяўшыся, адказала яна, прымаючы ад мяне падарункі.

— Кніжак іншых я дастану ад Карпа і Сымона, — казала яна далей.

— Ну, я бачу, вы змарыліся. Хадзем, я вас завяду на сена, — сказала яна, бяручы мяне за руку.

Мы ўсталі і выйшлі з хаты.

Ужо першыя праменьні сонца весела гарэлі залацістым агнём па касматых шапках соснаў, грабоў і дубоў.

Лёгкі ветрык патроху калыхаў галіны бярозкі і нейкі вельмі прыемны сьпеў птушак стаяў у паветры...

— Чуеце, як заліваюцца, — паварочаваючы да мяне сваю галоўку, сказала Алеся.

Мы прыселі на бервяно.

— У нас тутака прыгожа, вельмі прыгожа, асабліва раніцай, калі ўсё пачынае ажываць пасьля ночы...

— Ну, няма што вам дакучаць, ідзеце ось у тую пуню, тамака сьвежае сена, дый адпачывайце наздароўе. А як будзе гатова сьнеданьне, прыду будзіць, а пакуль ось памажэце занясьці шакалёў, — скончыла яна гутарку і пачала зьбіраць шакалі.

Я пачаў ёй памагаць. Праз мінют з пяць я назьбіраў вялікую кучу шакалёў, зьвязаў крайкай і панёс у хату.

Алеся ішла наперадзе, кажучы:

— Ось, дзякую вам, толькі не кажэце бацьку, што змусіла вас працаваць.

Хутка шакалі былі ў хаце, а я апыніўся ў пуні на сьвежым, з прыемным пахам, сене. Цераз шчыліны я бачыў, як з коміна хаты падняўся сіненькі дым, выйшла з хаты Алеся з вядром, пасьля вярнулася нясучы ваду, а потым быццам яшчэ нехта прайшоў у хату з стрэльбай, і я ня прыммеціў, як заснуў...

---

XXXI.

**Сон у пуні.**

Чаму так цяжка стогне вецер за вакном?

Чаму галіны так нізка гнуцца да зямлі?

Чаму так цяжка на душы? Чаму нейкі сум мяне апанаваў, неяк жудасна робіцца... Божа мілы! Калі-ж скончыцца гэта ночка над старонкай маей?

Калі Ты зьлітуешся над намі?

А вецер зноў так страшэнна завыў, рвануў галіны, сарваў колькі жоўтых лістоў і панёс іх у цёмную даль.

Божа Справядлівы!

Ты чуеш, як моляцца людзі Табе, Ты чуеш іх стагнату і сьвіст над імі бізуна, Ты бачыш іх сьлёзы і кроў...

Дык чаму-ж, Ты, Божа справядлівы, ня спыніш нашай мукі, чаму?

Ось кроплі дажджу ў шыбу вакна часта загрукалі, засьвяціліся і, Божа мой мілы, я пазнаў!..

Гэта ня кроплі дажджу!

Не, не, ніколі! Гэта сьлёзы! сьлёзы!..

І выбег я з хаты.

Бег, як мог...

Вецер рваў на маёй галаве валасы, гнаў мяне, і чуў я голас у ім...

«Куды бяжыш? Навошта? Усё роўна ад іх нікуды не ўцячэш! Яны тутака разам з табою! Паглядзі!»

Я бег, і ня прыкмеціў, як апыніўся ў бура-чорнай вадзе. Наўкола мяне цёмныя хвалі жыгалі. Чуўся толькі плёхат вады. А голаснейкі ўсё шаптаў:

«А што бачыш? Куды ўцякаў? Ня мог на сьлёзы глядзець, а цяпер у чым апыніўся, ў чым стаіш? Паглядзі!»

І глянуў я на чорныя хвалі, якія ўжо біліся ў грудзі мае...

Дык ось якія гэта хвалі! Дык ось у якое я трапіў мора!

Былі гэта крывавыя хвалі...

Было гэта крывавае мора...

Усё вышэй і вышэй падымаліся яны...

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

### Ліда.

На выезднай сэсыі Акружнога Суда ў Лідзе разглядалася справа аб забойстве паліцыянтаў: Юльяна Томчака і Янкі Вільканіца. На лаве падсудных сядзелі: Уладымер Брыкач, 26 г., з вёскі Алешкаўцы, Лідзкага пав., Аляксандар Чучва, 28 г., сын Захара, і Аляксандар Чучва, сын Васіля,—абодва з вёскі Чучвы, Лідзкага пав.

Разгледзіўшы справу, суд прысудзіў Уладымера Брыкача і Аляксандра, сына Васіля, Чучву на кару сьмерці, а Аляксандра, сына Захара, Чучву на бязсрочны цяжкі вастрог.

### Стоўпцы.

На дарозе між Стоўпцамі і Журадовіцамі 8 аружных бандытаў напалі на падводу, на якой ехалі жыды-купцы і, аграбіўшы іх, перайшлі каля Коласава граніцу і ўцяклі.

### Лунінец.

На дарозе да Зьдзясловічаў у Лунінецкім пав. нейкія тры аружныя бандыты забілі ўласьніка маёнтку „Борштык" п. Струкова і яго слугу, і, аграбіўшы забітых, уцяклі ў бок граніцы.

## У. С. С. Р. Р.

### Расстрэлы ў Грузіі.

„Prager Presse" зьмяшчае гэткую тэлеграму з Масквы ад 9-га верасьня: 6-га верасьня па прыгавары над'звычайнае грузінскае камісіі ў Тыфлісе расстрэлены 24 кіраўнікі грузінскага паўстаньня. Сярод расстрэленых шмат выдатных грузінскіх дзеячоў і сяброў Цэнтральнага Камітэту грузінскае соцыяль-дэмакратыі — быўшы міністар земляробства ўраду Джорданіі Ной Комэрыкі, быўшы галоўны камандзер грузінскае Народнае арміі Валіко Джугэлі, быўшы бурмістар Тыфлісу Бэніо Чыквішвілі, Гогіта Палава, Міхо Сабашвілі і Віктар Цэнтарадзэ.

### Чэскі бальшавік у маёнтку Крамаржа.

Соцыяль-дэмакратычная чэская газэта „Pravo Lidu" („Права Народу") друкуе цікавае паведамленьне аб тым, што відны сябар чэхаславацкае камуністычнае партыі А. Муна, які прабывае цяпер у Крыме, будзе назначаны камісарам нацыяналізованага маёнтку д-ра К. Крамаржа ў Крыме.

### Паўстаньне каля Адэсы.

Паводлуг адтрыманых праз Румынію вестак, у Адэскім вокрузе пачалося паўстаньне, якое мае вельмі паважны характар.

## Навуковыя навіны.

### Апарат дзеля лячэньня рака.

У „L'Illustration", чытаем аб новай выдумцы п. Ю. Лякоўскага, знамянуючай переварот у дасюлешняй сыстэме лячэньня рака.

*У адным з найбольш важкіх французскіх лякарскіх журналаў, вядомы хірург, праф. Госэ зьмясьціў абвестку* ад імя свайго, а таксама некалькі іншых выдатных дактароў, *якая* ў скарочаньні мае *гэткі зьмест:*

„Ведама, што ў рэзультаце інокуляцыі (прышчапленьня) „Bacterium tumefaciens" можна выклікаць у розных расьлін праявы рака.

Адзін з нас, п. І. Магрбю адтрымаў, шляхам гэткага мэтоду досьледаў, вялікую колькасьць расьлінаў з выразнымі ракавымі гузамі.

Разьвіцьцё рака ў расьлінаў бывае рознае; падчас гэныя гузы часткова, зьнікаюць. але бактэрыі ня гінуць аканчальна, пакуль уся расьліна, а прынамсі даная галіна, не памрэ; нават хірургічныя захады ня вылечваюць *радыкальна*, цалком!

Вось-жа **п. Юры Лякоўскі выдумаў апарат, дзеючы тэрапэўтычна (без опэрацыяў) і прадукуючы рад частых магнітных хваляў,** з калыханьнем каля 2 мэтраў даўжыні, што адпаведна 150 мільёнам вібрацыяў на сэкунду.

Рад расьлінаў (Pelargonium soratum) ў месяц пасьля інокуляцыі *Bact., tumef.,* быў падданы досьледу гэткага зьместу, што гэныя пазаражаныя расьліны пушчалі некалькі разоў прамень ні гэнага апарату, тры гадзіны бесьперарыўна.

У прадягу першых дзён ракавая пухліна хутка ўзрастала, але на 16 днёх ад першага насьвечаваньня, **гэная нарасьць зсохла і адпадала, пакідаючы рэшту арганізму зусім здаровай".!!**

У рэзультаце **ўсе заражаныя ракам расьліны** пад уплывам апарату п. Лякоўскага, здаецца — **вылечаны!**

**Гэта ёсьць вялікая перамога навукі,** якой ні хірургія, ані радый, ні праменьні Х. ня могуць пахваліцца!

## Тутэйшая хроніка.

= **Передача ўлады.** 15-га гэтага верасьня Дэлегат Ураду на Віленшчыну п. Уладыслаў Рачкевіч прыняў дэлегацкую ўладу ад дасюлешняга Дэлегата п. В. Романа.

= **Візыт.** 16-га гэтага верасьня Дэлегат Ураду п. Ул. Рачкевіч з асабістым сэкрэтаром п. Пятровічам зложыў візыт прэзыдэнту г. Вільні п. В. Банькоўскаму.

У гутарцы была закранута справа парадку, а таксама фінансаў Вільні, пры чым п. Дэлегат абяцаў сваё падтрыманьне ў выпадку, калі гэта будзе патрэбна.

= **Прыезд міністраў.** 22-га гэтага верасьня да Вільні мае прыехаць міністар Гандлю і Прамысловасьці п. Кернік і Прэзэс Гэнэральнае Дырэкцыі Пошты й Тэлеграфу п. Машынскі.

= **Новая беларуская кніжка.** Беларускае Грамадзянскае Сабраньне набыло ад вядомага беларускага артыста і драматурга Францішка Аляхновіча яго працу па гісторыі беларускага тэатру. Кніжка друкуецца і ў пачатку кастрычніка выйдзе ў сьвет пад назовам „Беларускі тэатр".

= **Адбудова.** Нарэшце такі адбудованы мост над лініяй чугунак, які злучае Радунскую вуліцу з местам. Мост гэты быў падарваны ў жніўні 1915 году. Рух праз мост пачаўся 10 верасьня.

= **Здарэньне ў рэстаране Жоржа.** У тутэйшай газэце „Dzien. Wileński" апісана гэткае здарэньне:

Пасьля пахаронаў ахвяр катастрофы пад Алькенікамі група афіцэраў, лікам каля 18 асоб, спраўляла ў салі рэстарану „Жорж" хаўтуры, падчас якіх граў свой ваенны аркестар. Хаўтуры былі гэтак гучныя, што праходзіўшая міма па вуліцы публіка зьвяртала ўвагу і затрымлівалася каля рэстаранных вакон.

Каля г. 11½ увеч., калі сабраўшыся на хаўтуры былі ўжо добра падвыпіўшы, некаторыя з іх пайшлі на першы поверх готэлю Жоржа, дзе, зашмат наеўшыся ды напіўшыся, паехалі... у „сталіцу" аднэй з прыбалтыйскіх дзяржаў.

Дзеля таго, што гэткую „падарожу" на калідоры готэлю рэстаранным госьцям рабіць забаронена, бо дзеля гэтага ёсьць у кожным рэстаране, спэцыяльныя памешканьні, ад'значанныя цыфрай „00", — готэльны слуга Віктар Лукановіч папрасіў аднаго з афіцэраў, каб не рабіў гэтак нягожа.

Ня гледзячы на тое, што гэтая просьба была сказана ў вельмі ветлай форме, афіцэр, вярнуўся ў рэстаран і ўзяўшы адтуль з сабой колькі сваіх таварышоў, пайшоў шукаць Лукановіча і, спаткаўшы яго ізноў на калідоры, кінуўся біць яго. Спачатку білі Л. па твары, а як упаў, пачалі яго біць нагамі пакуль не абамлеў.

Пачуўшы на калідоры крык, прыбег хлопчык готэльны Стась і хацеў бараніць свайго старшага таварыша, але тады адзін з афіцэраў стрэліў з рэвальвэра, але не папаў у хлапца: куля засела ў калідорнай сьценцы. Пабачыўшы, што справа кепска, хлапец уцёк да клезэту і зачыніўся там. Афіцэр кінуўся за ім, але, ня змогшы выламаць дзьверы, стрэліў другі раз. Куля, прабіўшы дзьверы, праляцела каля самай галавы хлапца і засела ў сьцяне.

У гэты час нехта паведаміў паліцыю. Пакуль прыбыла паліцыя, афіцэры ўцяклі.

Да пабітага Лукановіча паклікалі доктара, які сказаў, што палажэньне Л. цяжкое і пагражае яму глухата.

Апісваючы гэтае здарэньне, „Dzien. Wil." канчае гэтак: „Што скажа нам на гэта інспэктарат арміі? Грамадзянства павінна ведаць, якая кара спаткае азьвярэўшых (rozbestwionych) афіцэраў і што думае зрабіць гэн. Рыдз-Сьміглы, каб спыніць дзікасьць (rozwydrzenie) групы афіцэрскага корпусу, якая знаходзіцца пад яго загадам? Чакаем!"

= **На віленскіх рынках.** На апошнім паседжаньні Магістрацкае Гаспадарчае Камісіі пастаноўлена між інш. перанесьці рынак хлебны і драўляны з Завальнай вул. на Стафанскую. А рынак конскі і жывёльны, які раней быў на Стафанскай вул., маняцца перанесьці на пляц каля гарадзкой бойні на Панарскай вул.

Дзеля гэтага на рынку на Завальнай вул. будзе шмат вальней і больш можна будзе памясьціць сялян, якія прыяжджаюць з сваімі таварамі ў Вільню.

= **Забастоўка.** 15 верасьня ў віленскіх тартаках забаставалі рабочыя, якія дамагаюцца падвышэньня платы на 30%. Апрача гэтых дамаганьняў пастаўлены й іншыя, як напр., каб гаспадары ня прыймалі на службу рабочых, ня згуртаваных у прафэсаюзе, каб не выкідалі рабочых бяз згоды саюзу, і то ня інакш як папярэдзіўшы за тры месяцы ўперад.

## УСЯЧЫНА.

### Толькі цыфры.

„Gaz. Adm. i Policji" дае ў апошнім нумары цікаўную статыстыку.

Ад 1 студня да 1 ліпня 1924 г. пакарана 2040 старш. пподоўнікаў і пподоўнікаў паліцыі, у тым ліку 118 справаў аддадзена на судовы разгляд. Найбольш пакарана за службовы недагляд (1020), далей за п'янства (172), за неадпаведнае павядзеньне (72), за біцьцё—адміністрацыйна пакарана 12 і прыгаварам суда 34. З агульнага ліку 2040 пакараных выкінута са службы 68.

Пастарунковых паліцыянтаў за гэты самы час пакарана 13623, у гэтым ліку 575 справаў аддадзена ў суд.

Найбольшы лік праступкаў дала службовая нядбаласьць—4524, усялякія дробныя праступкі — 4284, п'янства—2223, неадпаведнае павядзеньне (niewłaściwe zachowanie się) — 945, біцьцё—96 кар адміністрацыйных, 154 ў судзе і 47 устрыманых (w zawieszeniu).

Выкінута са службы 945 пастарунковых.

### Зьніштажацель андаракоў.

Паліцыя ў Чыкаго (Амэрыка) ганяецца—як піша „Чыкагаўскі Дзеньнік"—за арыгіналам, якога спэцыяльнасьцяй зьяўляецца выпальваньне наведамым квасам дзіраў у вопратках жанчын. Гэта ёсьць мужчына, які карыстаючыся момантам гутаркі дам на вуліцы, страляе да іх з-заду з рэвальвэра ўласнае выдумкі, трапляючы ў іх квасам, які адразу спальвае матэрыю. Квас гэны не апальвае цела, так што пацярпеўшыя спакойна йдуць далей, ажно пакуль хтосьці з праходжых ня зьверне іхняе ўвагі на тое, што вопратка іх падзіраўлена.

### Паштовая скрынка.

**В. Смаленскаму ў Клюшчанах.** Каб быць беларускім вучыцелам, трэба знаць беларускую мову.

**І. Побалю ў Еўі каля Ліды.** Падпіска да канца бяг. году каштуе 7 зл. 20 гр. На адтрыманьні, вышлем квітанцыю.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць нялісьменнаму!*



Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей. Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.